*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)  23(183)  8 чэрвеня 1994 г.  Кошт — 100 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ УКАЗ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «Аб устанаўленні свята — Дня беларускага пісьменства і друку», у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Дзень беларускага пісьменства і друку адзначаць штогод у першую нядзелю верасня».***

**1 ЧЭРВЕНЯ Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ ПРАЙШЛА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ З ПРАДСТАЎНІКАМІ НЯДАЎНА АБРАНАГА КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА БЕЛАРУСІ. На думку намесніка старшыні Канстытуцыйнага Суда Валерыя Ціхіні, «мы ўсе жывём у неправавой дзяржаве. Непавага да закона дастаткова глыбока пранікла ў тканкі нашага грамадства. Неабходна, пакуль яшчэ не позна, утаймаваць прававое бязмежжа». Да ўсяго В. Ціхіня заявіў: «Канстытуцыйны Суд Беларусі стаіць па-за палітыкай. Нам не хацелася б паўтараць памылкі Канстытуцыйнага Суда Расіі».**

***«БЕЛАРУСКАЕ ДЭМАКРАТЫЧНАЕ ЗГУРТАВАННЕ ВЕТЭРАНАЎ», якое ўзначальвае пісьменнік Артур Вольскі, правяло ў Доме літаратара ў Менску вечарыну, прысвечаную 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На вечарыне выступіў кандыдат у прэзідэнты Зянон Пазьняк. Урачыстасць завяршылася ўскладаннем кветак да помніка-абеліска па плошчы Перамогі. Так што не ўсе ветэраны гарой стаяць за зварот у «светлае мінулае».***

**5 ЧЭРВЕНЯ ПРАЙШОЎ ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ СВЯТОЙ ПРАПАДОБНАЙ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ.**

**У ГРОДНЕ ПАСЛЯ ДВУХ ГАДОЎ РАМОНТУ СУСТРЭЎ ПЕРШЫХ НАВЕДВАЛЬНІКАЎ ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА.**

***ВАТЫКАН АФІЦЫЙНА ЗАЦВЕРДЗІЎ беларускія пераклады літургічных тэкстаў, зробленыя для беларусаў-уніятаў апостальскім візітатарам айцом Аляксандрам Надсанам. Такім чынам, грэка-каталікі атрымалі статус кананічнасці беларускай мовы сваіх богаслужэнняў.***

**У ЦЭНТРЫ СВЯНЦЯНСКАГА РАЁНА ЛІТВЫ, які мяжуе з Пастаўскім раёнам нашай краіны, створана беларускае таварыства, у якое уваходзяць каля 80 чалавек.**

***ДА КАНЦА ПАДПІСНОЙ КАМПАНІІ НА БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАННІ ЗАСТАЛОСЯ УСЯГО ТОЛЬКІ СЕМ ДЗЁН. Калі вы яшчэ не падпісаліся на «Наша слова», раім гэта зрабіць сёння. Кошт газеты на адзін месяц — 600 рублёў, на квартал — 1800 рублёў. Індэкс — 63865. Выпісаць «НС» можна ў любым паштовым аддзяленні нашай краіны.***

*РЭХА* *РЭХА*

## Выбухі ля Уладзівастока, а Дамоклаў меч над Беларуссю

На Далёкім Усходзе Расіі зноў, як у мінулым годзе, выбухам, роўным па сіле дзвюм атамным бомбам, разнесла вялікі склад боепрыпасаў, а ва Уладзівастоку, за сотню кіламетраў, хісталася зямля і выляталі шыбы з вокнаў. Надзвычайнае здарэнне нават не агульнадзяржаўнага ўзроўню, а міжнароднага маштабу. Яшчэ адно такое ж — на базе стратэгічных ядзерных ракет: нейкі Алік як сапраўдны выхаванец камуністычнай школы звышінтэрнацыяналізму, калі яму не пажадалі саслужыўцы падпарадкавацца як пахану, застрэліў афіцэра з групай салдат і такім чынам захапіў ракетны ядзерны комплекс. Згодна пагаднення з амерыканцамі, расійскае камандаванне абавязана было неадкладна паведаміць ураду ЗША пра надзвычайнае здарэнне. Тым не менш доблесныя расіяне не толькі вырашылі замоўчаць уяўную верагоднасць ядзернага выбуху, але і потым не дапусцілі амерыканскую ваенную інспекцыю нават на тэрыторыю штаба ракетнай дывізіі, праігнараваўшы міжурадавае пагадненне. Не думаем, што беларускую інспекцыю на КПП расійскіх вайсковых баз, размешчаных на нашай зямлі, сустрэлі б з сяброўскімі абдымкамі. Тым часам у Расіі дасведчаныя ды цвярозыя людзі ўжо адкрыта заяўляюць, што зброя ды армія гэтай дзяржавы — самая рэальная пагроза яе ўласнай бяспекі.

Думку наконт гэтага ўсяго вельмі выразна выказаў на XI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі Вячаслаў Адамчык. «Мы сабраліся тут,— сказаў ён,— каб гаварыць пра слова, што было напачатку, але мусім гаварыць пра жыццё, што ёсць працягам святога, узвышанага слова». Бо, адназначыў вядомы пісьменнік, цяпер настаў такі час, калі Беларусь увогуле можа загінуць па волі тых своекарыслівых кіраўнікоў, якія, «пагарджаючы воляй і памкненнем свядомых людзей, падпісваюць дамовы на размяшчэнне на тэрыторыі Беларусі іншаземнай стратэгічнай зброі. Тры заградпаласы: Магілёў—Орша—Віцебск; Паставы—Менск—Слуцк; Ліда—Дзятлава—Баранавічы, на якіх вострымі ікламі ашчэрыліся расійскія ракеты, нясуць найвялікшую шкоду нашай незалежнай Беларусі, беларускаму народу. Бо мы ведаем, што ядзерная зброя пры сённяшнім бязмежным лайдацтве, п'янстве, дзікай безадказнасці, нізкай тэхнічнай бяспецы робіцца грознай найперш для той тэрыторыі, на якой яна размешчана. Бо мы ведаем, што будучыня нашага народа перагароджана не адным, а некалькімі вогненнымі і забойнымі чарнобылямі». «Кажуць,— заўважыў Вячаслаў Адамчык,— што яны, ракеты, пастаўлены на нулявы прыцэл і, значыць, узарвуцца ў выпадку чаго толькі на шматпакутнай беларускай зямлі». Але чаму, за якія такія нашы грахі, задае пытанне пісьменнік, «коштам нашых жыццяў, цаною беларускага народа хоча абараніцца іншаземная дзяржава, забяспечыць жыццё сваіх грамадзян і свае граніцы? Мы помнім пакт Рыбентропа — Молатава, мы ведаем, як быў непамерна насычаны жывою сілаю, гарматамі, танкамі, самалётамі «особый Белорусский округ», а скончылася ўсё вялікай трагедыяй для нашага народа: загінуў кожны чацвёрты.

Мы, беларусы, як ні адзін з усіх славянскіх і неславянскіх народаў, нікому не прычынілі шкоды і зла, а пацярпелі найбольш. Нас усё толькі дзялілі, «нас не спытаўшы», як сказаў класік. Дзве вайны, страты, панесеныя беларускім народам у гэтым стагоддзі, нават без нашага вымаўленага слова ўжо заяўляюць пра тое, каб з тэрыторыі Беларусі была вывезена стратэгічная зброя суседняй дзяржавы. Над беларускім народам не павінен вісець Дамоклаў меч!» — усклікнуў пісьменнік. Меч, дададзім мы, ніткачку ад якога можа ў любы момант перарэзаць чарговы звышінтэрнацыяналіст Алік, які абавязкова ж знойдзецца на кожнай з тых расійскіх ваенных баз, якія прышпілілі Беларусь на пакутніцкі крыж ахвяры чужых імперскіх амбіцый.

**Ул. А.**

*АЛЕ!*

## Нарэшце «датупаў»...

Вядомы сваім імкненнем усяляк спрыяць ліквідацыі незалежнасці Беларусі прадпрымальнік і гаспадар фірмы «Эрыдан» А. Патупа не аднойчы заяўляў, што ён дзейнічае дзеля ўсталявання «Еўропы без граніц» і выключна на агульную карысць свабоднага чалавецтва. Словам, другі Джордж Сорас ды й годзе. Адзінае, што ўсё ж насцярожвала: кіраўнік «Цэнтра вывучэння Будучага» прагнуў, каб спярша Беларусь чамусьці абавязкова прызнала дзяржаўнай таксама і мову суседняй дзяржавы. Гэта ў той час, як іншыя касмапаліты лепшым варыянтам лічаць усталяванне для ўсіх зразумелай, але нейтральнай мовы — эсперанта. Ды раптам высвятляецца: незалежны і г. д. даследчык Будучага стаў адным з кіраўнікоў... ініцыятыўнай групы па вылучэнню ў прэзідэнты Вячаслава Кебіча. Але ж вядома, што Вячаслаў Францавіч змагаецца не за ўваходжанне Беларусі ў эканоміку Заходняй Еўропы, а за ўключэнне Беларусі ў расійскую «зону» і, мала таго, у дадатак канчаткова вызначыўся палітычна: як паведамляецца нават у расійскіх газетах, «практычна перастаў хаваць сваю прыналежнасць да камуністычнага лагера». У той жа час, зноў жа заўважаецца ў расійскіх газетах, «менавіта камуністы праяўляюць проста-такі фізіялагічную нянавісць да беларускай мовы і дзяржаўных сімвалаў, сістэматычна дамагаючыся іх замены». Таму нічога дзіўнага, што на сустрэчы з журналістамі ў дэманстраваўшага сваю прыхільнасць да дэмакратыі бізнесмена запыталі (згодна тэксту ў газеце «Фемида»): якая прамая зацікаўленасць А. Патупы і ягонай фірмы «Эрыдан» у прамой падтрымцы кандыдатуры Кебіча на прэзідэнцкі пост?

Аўтар артыкула ў «Фемиде» так расшыфроўвае «падтэкст» журналісцкіх запытанняў: што, другімі словамі, робіць у «наменклатурнай кампаніі» людзі, ад усялякай партдзяржнаменклатуры вельмі далёкія (як быццам?— У. А.), вядомыя сваімі ліберальна-дэмакратычнымі поглядамі?» Карэспандэнт папрасіў потым для газеты адказаць на гэтыя пытанні «па магчымасці больш шчыра» (проста бляск!— У. А.), чым тое было зроблена на прэс-канферэнцыі. І атрымаў такі вось ну вельмі «шчыры» адказ, які цытуем спецыяльна на мове арыгінала, каб нешта не сказіць пры перакладзе: «Насчет моих прямых интересов строились и наверняка будут строиться разнообразные гипотезы. Мне не обещаны никакие высокие государственные посты. Кебич и его окружение прекрасно знают, что я ни к чему такому не стремлюсь...» Словам, сціпла, але з годнасцю адказаў А. Патупа, на якой платформе капіталіст знайшоў паразуменне з лагерам як быццам зусім іншага накірунку.

Карэспандэнцыя ў падначаленай А. Патупу «Фемиде» заканчваецца такой філасофскай сентэнцыяй: «Прэзідэнцкая кампанія — вельмі высокая палітыка. Уменне правільна разлічваць усе яе магчымыя перыпетыі — вельмі высокае мастацтва. Гэта дадзена не ўсім...» Што так, то так. Не будзем і спрачацца. Але ці ўсведамляе наш звышінтэрнацыяналіст, што такім чынам бярэ ўдзел у гандлі лёсам беларускага народа і краіны, грамадзянства якой ён у свой час атрымаў?

**Ул. АСІНАЎСКІ.**

*Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ*

## Выбар

*Радзіма змучана бядой*
*Гуляе здрада, здзек, бяспраўе.*
*Гандлюе зло зямлёй святой,*
*Здае ў прыгон чужой дзяржаве.*

*Цярпець такі грабеж-разбой*
*Нам годзе, годзе, браткі,— сорам*
*Перад «Пагоняй» векавой*
*І сцягам нашым ясназорым!*

*Даволі ў беднасці гібець,*
*Рабамі быць у вольным доме!*
*Хто наш дзяржаўны карабель*
*Скіруе ў шлях шчаслівай долі?*

*Мудрэйшы хто? Чыя рука*
*Павесці здольна Божым курсам?..*
*За ..............*
*Прагаласуем, беларусы!!!*

## Жыццё Таварыства

*На базе гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы Нясвіжа арганізавана творчае аб'яднанне «Нясвіж», у якое ўвайшлі мясцовыя паэты, мастакі, народныя ўмельцы. На пасяджэнні «Нясвіжа» яго ўдзельнікамі прыняты зварот да дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі, тэкст якога друкуецца ніжэй.*

*Мы, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Нясвіжчыны, звяртаемся да Вас з наступнымі наказамі:*

**1. Усім народным дэпутатам неадкладна авалодаць беларускай мовай. І прыклад у гэтым павінны паказаць В. Ф. Кебіч, В. І. Шаладонаў, М. Мясніковіч, А. Цішкевіч, П. Казлоўскі і ўсе астатнія.**

**2. На кіруючыя пасады ўсіх узроўняў прызначаць толькі тых грамадзян РБ, хто не цураецца беларускай мовы.**

**3. Не дапусціце ганебнага і зневажальнага для беларусаў двухмоўя. Ёсць Закон аб мовах у РБ, і трэба яго выконваць.**

**4. На аснове Закона аб мовах прыняць пастанову аб неадкладным пераходзе на беларускую мову ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, культуры.**

**5. Абавязаць усіх тэле- і радыёжурналістаў карыстацца толькі дзяржаўнай мовай на тэрыторыі РБ.**

**6. Газету «Звязда» неадкладна назваць «Зоркай Адраджэння» (звезда — зорка).**

**7. Адмяніць усе дэпутацкія прывілеі. Перад Законам усе павінны быць роўныя.**

**8. У новым беларускім пашпарце павінны быць запісы на беларускай і англійскай мовах. А таксама аб нацыянальнай прыналежнасці ўладальніка (беларус, рускі, украінец, літовец, турак).**

**9. Забараніць паказ кінафільмаў-баевікоў і праграм эратычнага зместу. Асабліва ў праграмах для моладзі.**

**Забараніць трансляцыю анекдотаў вульгарнага зместу.**

**Забараніць выступленні на радыё і тэлебачанні экстрасенсаў і розных прадказальнікаў.**

**10. Узняць пытанне аб вяртанні Расіяй Беларусі айчыннай культурнай спадчыны.**

ДЗЕ І ШТО?

# У Гомелі ўзышла «Атава»

Першы нумар газеты «Атава», падрыхтаваны і выдадзены ўдзельнікамі беларускай суполкі з Гомеля «Талака», убачыў свет у сакавіку 1990 года. Тады ж былі падрыхтаваны макеты двух наступных нумароў газеты. Але ці ж магчыма было тады, у часы СССР, існаванне недзяржаўнага беларускамоўнага выдання, якое прапагандавала ідэі нацыянальнага адраджэння і дзяржаўнай незалежнасці Беларусі? Выпуск «Атавы» быў спынены на першым нумары.

Аднаўленне выдання стала магчымым толькі праз чатыры гады. У 1994 годзе Гомельскай філіяй Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра быў выдадзены другі нумар аднаўленай «Атавы». Змест яго дае зразумець: аўтары выдання захавалі вернасць сваім прынцыпам, галоўны сярод якіх — Адраджэнне Беларусі.

«Атава... гэта слова часцяком пачуеш у народзе. Атава — трава, якая вырастае на месцы скошанай у той жа год. Упарта імкнецца да неба сваімі зялёнымі парасткамі, заклікаючы ўсіх, хто знаходзіцца побач зь ёй, да жыцьця. Атава — гэта тая моладзь, якая сёння ажыўляе за 70 год зьнявечанае цела айчыны. Асабліва ўскладзены надзеі на тых, хто не толькі адраджае спадчыну на словах, але і сваім жыцьцём, пазыцыяй...

**Край мой родны,**
**Войнамі змучаны,**
**Над народам —**
**сьмяротны цень...**
**Моладзь споена,**
**моладзь аблучана,**
**Ці падыме цябе**
**з кален!**

— гэтыя словы Ларысы Геніюш напісаны ня сёньня і ня ўчора, але ад іх сьціскаецца сэрца. Даверце свой лёс ды лёс сваіх дзяцей сёньняшняй «Атаве». Няхай яна зелянее, набіраецца моцы і красуе...»

«Атава» № 2 1994 г. вырасла замест «Атавы» № 1 1990 г., якая была скошана, але не зьнішчана»,— гаворыцца ў рэдакцыйным артыкуле аднаўленага выдання.

Чатыры гады, якія мінулі з часу выхаду ў свет першага нумара газеты, прынеслі шмат змен. Закранулі яны і «Атаву». З лістка, выдаванага гуртком «нацыяналістаў» на чале з Алесем Яўсеенкам, яна ператварылася ў выданне рэгіянальнай філіі Рэспубліканскага культурна-адукацыйнага цэнтра, рэдагаваная яго кіраўніком — усё тым жа А. Яўсеенкам. Імёны аўтараў публікацыі і фундатара выдання — гэта ўжо спіс не цікавячых выключна міліцыю нефармалаў, а людзей, вядомых сваёй працай на ніве беларускага Адраджэння. «Атава» стала не проста яшчэ адной крыніцай беларускага слова. Гэта — сведчанне паўстання новага пакалення беларускай інтэлігенцыі. Гэта — доказ неўміручасці народа.

У. П.

*Але!*

## Для каго закон?

**«Мінская праўда» — здавён і скрозь беларуская газета — стала раптам «двуязычной», выказаўшы, на свой лад, адносіны да беларусізацыі, гістарычнага памкнення Беларускае дзяржавы пазбавіцца ўрэшце ад зацяжнога палітычна-духоўнага каланізатарства і асімілятарства беларускага народа. Факт жалю годны. Але ці выпадковы? Перастараліся журналісты-звышінтэрнацыяналісты? Але агульнавядомай з'яўляецца непрыхільнасць да дзяржаўнасці беларускай мовы галоўнай уладнай асобы сталічнай вобласці А. І. Цішкевіча: падчас галасавання ў Вярхоўным Савеце ён не падтрымаў адпаведнага артыкула ў дыскутаваным праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Тым не менш... дзяржаўнасць беларускага слова замацавана ў прынятай Канстытуцыі, яшчэ раней — у Законе аб мовах. Застаецца выконваць заканадаўчыя рашэнні. А дзяржаўным асобам — не проста выконваць, але і пільнаваць, кантраляваць належнае выкананне. Але што гэта: 23 красавіка 1994 г. на першай старонцы «Мінскай праўды» друкуецца афіцыйны дакумент — пастанова выканкама абласнога Савета дэпутатаў за подпісам яго старшыні «Об образовании областной комиссии по выборам президента Республики Беларусь» з адпаведным загалоўку зместам — на мове іншаземнай дзяржавы.**

**Пытанне да старшыні Мінскага аблвыканкама А. І. Цішкевіча, галоўнага рэдактара газеты М. А. Шломы: Шаноўныя спадары, няўжо сапраўды для вас «закон не писан»?**

**У чаканні адказу — грамадзяне Беларусі, менчукі Уладзімір Конан, Яўген Лецка, Мікола Матрунчык і далучаны да іх масквіч — Аляксей Каўка.**

**З гэтым жа запытаннем мы памкнуліся было да Дома ўрада, спадзеючыся на спагаду ў высокай інстанцыі. І... зніякавелі на першай жа прыступцы перад агромністай шыльдай у Дзяржаўным доме: «Приемная по жалобам и письмам трудящихся Совета Министров Республики Беларусь». Дайшлі праўды і справядлівасці! Міжволі згадаўся Купалы пакутны вокліч:**

***У беларускім вольным краі,***
***З ярэмнай збрыўшы стараны,***
***Царыць чужынец, а ў паслугах***
***Хто?***
***— Беларускія сыны!***

**Ды ягонае ж, Прарока, вострае запытанне яшчэ раз перажагналася на сэрцы:**

***Дакуль жа будзе іхняя сіла***
***Трымаць над намі свой прыгон?***
***Калі ў Бацькаўшчыне мілай***
***Загосціць праведны закон?***

**Некалькі гадоў таму маладыя беларускія інтэлігенты намерыліся адрадзіць славутую «Нашу Ніву». Некаторыя нават перабраліся ў Вільню, дзе пад бел-чырвона-белым сцягам баранілі ў студзені 1991 года будынак тэлецэнтра (і цяпер узнагароджаны). Чацвёрты год у былой нашай сталіцы выдаецца новая «Наша Ніва». Адзін з супрацоўнікаў газеты, вядомы паэт і перакладчык Алег Мінкін нядаўна прыязджаў у Менск (тут рыхтуецца выданне яго кнігі), і з ім гутарыў наш карэспандэнт.**

# У ВІЛЬНІ АХВОТНА ЧЫТАЮЦЬ

*— Ты ўжо даўно, мабыць гады тры, жывеш у Вільні. Ці змянілася становішча тых маладых беларускіх інтэлігентаў, што ў свой час паехалі туды?*

— Наша становішча залежыць ад агульнага становішча ў Летуве*. А там у матэрыяльным і духоўным жыцці назіраецца нейкі пэўны прагрэс.

*— А вашы спадзяванні на адраджэнне беларускага жыцця ў Вільні спраўджваюцца?*

— Я асабіста ехаў не на лепшае матэрыяльнае жыццё, а за патрэбай творчай, дзеля каларыту самой Вільні, незалежна ад яе беларускасці. І я знайшоў там тое, чаго б ніколі не займеў у Беларусі. Прыкладам, я не ўяўляю, як бы я перакладаў «Боскую камедыю» Дантэ, жывучы ў Берасці. Горад чысты і ўтульны, але казарменны, камуністычны, савецкі... А вось у Вільні «Боская камедыя» перакладаецца цудоўна.

*— І шмат зрабіў?*

— Будзем лічыць, што тры песні ўжо перакладзены.

*— Цяпер ты займаешся выключна перакладамі?*

— Не сказаў бы. Пасля гадовага перапынку зноў пішу вершы, прозу.

*— Вернемся да беларускага жыцця ў Вільні. Ты працуеш у «Нашай Ніве». Як ставяцца віленчукі да вашай газеты?*

— Справа ў тым, што «Наша Ніва» — не газета беларускай нацыянальнай меншасці ў Летуве. Яна — агульнабеларуская, не разлічаная толькі на Віленскі край. Таму віленчукі з большым задавальненнем чытаюць «Наша слова» — вашу газету, чым тую, што ствараецца ў іх горадзе. А да таго ж, у Вільні ў расійскамоўнай газеце «Эхо Литвы» рэгулярна выходзіць беларускамоўная старонка.

А ўвогуле, каб былі нейкія матэрыяльныя сродкі, для Віленскага краю можна было б выдаваць грамадска-палітычную газету, якая б адпавядала, як казалі раней, «чаяніям» віленчукоў. Там ёсць людзі, якія змаглі б выдаваць цікавую газету.

*— Чуў, што на радыё і тэлебачанні ладзяцца беларускія перадачы.*

— Так, штодзённая перадача ўвечары, але, на мой погляд, вельмі слабая. Гэта паўтор летувіскай інфармацыі, толькі на беларускай мове. Яе рыхтуе летувіс, які ведае беларускую мову. Гэта фактычна летувіская перадача на беларускай мове. А што да ТБ, то там у нейкім сэнсе асвятляецца беларускае жыццё Вільні, але не Віленскага краю, пераважна жыццё віленскіх беларускіх суполак. Яна робіцца на высокім прафесійным узроўні, але, паўтару, жыцця Віленскага краю не асвятляе.

Таму надзённая праблема — стварыць газету для беларусаў Віленскага краю, але няма сродкаў. Калі ўзяць грошы ў летувісаў, то гэта ўжо будзе не беларуская газета, а залежная ад іх. А беларусы і беларускі ўрад не клапоцяцца пра гэта.

*— Ці выпісваюць «Нашу Ніву» ў Віленскім краі?*

— «Наша Ніва» ўнесена ў летувіскія каталогі. Мы маем 33 падпісчыкі. Яшчэ нейкая сотня прадаецца і распаўсюджваецца ў Вільні.

*Але!*

# «Дык ідзеце,

***У чарговы раз гарадзенская газета Саюза Палякаў Беларусі «Глос з-над Немна» выказвае незадаволенасць з прычыны пашырэння беларускай мовы ў жыцці Каталіцкай Царквы ў нашай краіне. Звяртаю ўвагу на невялікі артыкул Віктара Ляўданскага «Яшчэ раз аб мовах у касцёлах» у № 16 за г. г. Між іншым, яго не задавальняе, што біскуп Аляксандр Кашкевіч каляднае пасланне чытаў па-беларуску, што ў Лідзе ксёндз Ігар (мабыць, маецца на ўвазе адзін з найбольш адукаваных на Беларусі маладых святароў а. Ігар Лашук) — «зацяты прыхільнік беларусізацыі касцёла», а «старыя людзі ўзбунтаваныя» гэтым. Што «ўвесь час стараецца перакапаць моладзь, што яны не палякі, але каталікі-беларусы. Размаўляе з моладдзю выключна па-беларуску». Сапраўды, падставы для хвалявання відавочныя. І ўрэшце, кажучы пра магчымую беларусізацыю касцёла, сцвярджае, што «запачаткуе гэта канец нашага Адраджэння і створыць пагрозу нашаму існаванню як нацыянальнай меншасці».***

**Далей В. Ляўданскі піша: «Рэлігія заўсёды была ў авангардзе нашай польскасці. Таму з дапамогай беларускай мовы ў касцёлах духавенства, хоча яно гэтага ці не, спрыяе асіміляцыі польскага насельніцтва, што жыве на землях Беларусі, і адначасова губляе свой аўтарытэт між палякамі». Не ведаю, што меў на ўвазе шаноўны пан, але мне яшчэ не прыходзілася сустракаць палякаў, якія б з дапамогай святара сталі беларусамі. Касцёл мусіць верна выконваць запавет Ісуса Хрыста: «Дык ідзеце, навучайце ўсе народы...» Апосталы не засталіся ў Іерусаліме і не абаранялі сваіх суродзічаў ад культурнага ці яшчэ якога ўплыву тых жа рымлян. Наадварот, яны самі панеслі слова Божае ўсім (!) народам. Чаму ж тады, шаноўны В. Ляўданскі і шаноўная рэдакцыя «Глосу з-над**

## Прысвоены вучоныя званні

***Атэстацыйная калегія Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь сваім рашэннем ад 25 сакавіка 1994 года прысвоіла вучонае званне дацэнта выкладчыкам Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута: па кафедры славянскіх моў ПЕРАХОД Вользе Барысаўне, па кафедры замежных моў МАКСІМУК Ларысе Міхайлаўне, па кафедры педагогікі ЛІТОЎЧАНКА Валянціне Мікалаеўне; выкладчыкам Менскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута: па кафедры педагогікі і методыкі выхаваўчай работы ЧЭЧАТУ Віктару Віктаравічу, па кафедры педагогікі КАЛЕННІКАВАЙ Таісе Рыгораўне; выкладчыку Менскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў па кафедры педагогікі БАРАНАВАЙ Наталлі Пятроўне.***

*Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі*
*Янка* ***БРЫЛЬ***

*Старыя беларускія гімназіі*

***Працягваем друкаваць матэрыялы, прысвечаныя гэтым навучальным установам, якія ў свой час зрабілі шмат для росту нацыянальнай свядомасці беларусаў. Пэўны перапынак з іх публікацыяй быў абумоўлены тым, што, як раней адзначалася, зараз выкладчыкаў, вучняў і выпускнікоў былых беларускіх гімназій ужо, на жаль, засталося няшмат. Акрамя таго, частка іх сёння жыве за межамі Беларусі, некаторыя — у далёкіх краінах, куды беларуская прэса амаль не трапляе. Ды і ўвогуле цяпер, як вядома, паштовыя зносіны з замежжам вельмі ўскладніліся.***

***Звяртаемся зноў да чытачоў «Нашага слова»: калі вам вядома што-небудзь аб усім, што хоць ускосна звязана са старымі беларускімі гімназіямі, напішыце, калі ласка, рэдакцыі.***

***Сёння прапануецца артыкул, дзе расказваецца аб Рыгору Якубёнку — дырэктару Клецкай беларускай гімназіі. У адным з бліжэйшых нумароў газеты вы пазнаёміцеся з настаўнікамі, якія працавалі разам з Якубёнкам.***

# «ДЛЯ ГІМНАЗІСТАЎ АДДАВАЎ УСЁ»

АДНЫМ з тых, хто пабацькоўску клапаціўся аб падрыхтоўцы і выхаванні будучай нацыянальна свядомай інтэлігенцыі Заходняй Беларусі дваццатых — пачатку трыццатых гадоў, быў Рыгор Усцінавіч Якубёнак, дырэктар Клецкай беларускай гімназіі. Выхадзец з сялянскай сям'і, ён дзякуючы напорыстасці здолеў скончыць Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, затым прадоўжыць вучобу ў Полацку. Але Першая сусветная вайна перашкодзіла далейшай вучобе: Рыгора мабілізавалі ў царскую армію, дзе ён даслужыўся да афіцэрскага чыну. Пасля падпісанага бальшавікамі ганебнага Рыжскага міру, у выніку чаго амаль палавіна Беларусі апынулася ў складзе Польшчы, Рыгор Якубёнак вярнуўся ў сваю родную вёску Залесінкі былога Валожынскага павета.

У 1923 годзе польскія ўлады ліквідавалі рускую гімназію ў Нясвіжы. Рыгор Усцінавіч паспрабаваў дамовіцца накont адкрыцця там беларускай гімназіі, але яму адмовілі.

Тым часам з Клецка нацыянальна свядомыя беларусы паслалі дэлегацыю да Якубёнка, каб той пасадзейнічаў адкрыццю ў гэтым мястэчку беларускай гімназіі і сам узначаліў яе. Дарэчы, сярод жыхароў Клецка напярэдадні была сабрана неабходная колькасць заяў, якая дазваляла такую гімназію там адкрыць. Але ўлады фінансаваць гімназію адмовіліся. Яны вылучылі новую ўмову: гімназія адкрыецца толькі тады, калі местачкоўцы знойдуць багатага мецэната, які б гарантаваў яе матэрыяльнае забеспячэнне. Гэта быў хітры ход павятовых чыноўнікаў, якія лічылі, што сярод шчырых прыхільнікаў беларушчыны наўрад ці знойдзецца багаты камерсант. Пры дапамозе Якубёнка мецэната ўсё ж знайшлі. Ім аказаўся заможны віленскі заводчык Дзямідовіч.

Пры стварэнні Клецкай беларускай гімназіі Рыгор Якубёнак праявіў выключныя арганізатарскія здольнасці. Яскрава выявіліся і ягоныя высокія інтэлектуальныя якасці псіхолага і педагога: калектыў выкладчыкаў быў падабраны надзвычай здольны. Гэта былі педагогі па прызванню, пераважная большасць якіх скончыла адпаведныя факультэты Пражскага і Віленскага універсітэтаў. Яны выдатна ведалі свае прадметы, а галоўнае, былі шчырымі прыхільнікамі беларушчыны. Пры забеспячэнні гімназіі падручнікамі, нагляднымі дапаможнікамі і мастацкай літаратурай на роднай мове вялікую дапамогу аказала Віленская беларуская кнігарня «Пагоня» і яе дырэктар ксёндз Адам Станкевіч. Шмат падручнікаў і іншых кніг гімназія атрымала бясплатна.

Заняткі ў гімназіі пачаліся 1 верасня 1924 года. У 1—4 класах займалася 58 вучняў. Пераважна — местачкоўцы з Клецка, юнакі і дзяўчаты з навакольных вёсак.

У наступным годзе ў гімназіі быў створаны гурток Таварыства беларускай школы (ТБШ), які працаваў пад непасрэдным кіраўніцтвам дырэктара. Гурток меў акрэслены культурна-асветніцкі накірунак. Для прапаганды беларускай нацыянальнай культуры арганізавалі і гімназічны калектыў мастацкай самадзейнасці. Яго ўзначаліў выкладчык музыкі і спеваў, выдатны знаўца беларускіх народных песень, пазней вядомы беларускі кампазітар Валынчык. Самадзейныя артысты рэгулярна наладжвалі вечарыны для гімназістаў і для местачкоўцаў. Слава пра іх шырылася па ўсёй Клеччыне, бо гурткоўцы часта прыязджалі з канцэртамі ў вёскі.

Неўзабаве культурна-асветніцкая работа клецкіх гімназістаў у вёсках набыла вялікі размах, які вельмі ўстрывожыў павятовыя ўлады. Нічога тут дзіўнага, бо гэта супярэчыла палітыцы татальнай паланізацыі «крэсув всходніх». Таму ўлады рабілі ўсялякія перашкоды канцэртам клецкіх гімназістаў.

У асобе Рыгора Якубёнка клецкія местачкоўцы, бацькоўская грамадскасць і гімназісты бачылі яскравы прыклад беларускай нацыянальнай самасвядомасці, чалавечай годнасці, варты для пераймання. Рыгор Усцінавіч заўсёды размаўляў толькі на беларускай мове, родным словам карыстаўся ён і ва ўрадавых установах мястэчка ў Нясвіжскім старостве, хоць польскай мовай валодаў выдатна.

Лепшым сябрам Якубёнка быў Язэп Гаўрылік, былы пасол ад беларусаў у польскім сейме. У якасці школьнага інспектара Гаўрылік часта наведваў Клецкую гімназію. Ён хваліў вучняў за выдатныя веды, за беларускі патрыятызм. Добрыя сяброўскія адносіны склаліся ў Якубёнка з былым дырэктарам Радашковіцкай беларускай гімназіі, першым рэдактарам «Нашай нівы» Аляксандрам Уласавым.

У канцы дваццатых гадоў Клецкая гімназія стала адным з культурна-асветніцкіх цэнтраў Заходняй Беларусі, своеасаблівай кузняй, дзе рыхтаваліся і гартаваліся будучыя кадры нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Гэта, зразумела, вельмі насцярожыла польскія ўлады. А беларускі патрыятызм без «класавай свядомасці» зусім не адпавядаў таксама і «таварышам» з ЦК КПЗБ і ЦК КСМЗБ. Між тым, польскія ўлады толькі шукалі падстаў для рэпрэсій супраць гімназіі. Карты ў рукі далі ім бальшавіцкія падпольшчыкі з ЦК КПЗБ і ЦК КСМЗБ.

Дзесьці ў пачатку 1927 года ў гімназію пачалі пранікаць ідэі бальшавізму. Яе тайна наведваюць партыйныя і камсамольскія інструктары. Прыязджалі і эмісары з БССР, якія проста трызнілі марай аб выхаванні рэвалюцыйных бунтароў, здольных руйнаваць «стары свет». Бальшавіцкі ўплыў сярод клецкіх гімназістаў таіў у сабе пагрозу для існавання самой гімназіі, бо ўлады не маглі дазволіць, каб на мяжы з агрэсіўнай камуністычнай дзяржавай, якая імкнулася заваяваць цэлы свет,— выпестоўвалася антыпольская пятая калона. Ці зразумелі гэта бальшавіцкія ідэолагі з КПЗБ і КСМЗБ? Вядома, разумелі, але для іх класавыя інтарэсы пралетарыяту былі вышэй за інтарэсы нацыянальныя. Аб пранікненні бальшавіцкіх ідэй у гімназію ведаў і Якубёнак. Але, застаючыся паслядоўным дэмакратам, ён не прымаў ніякіх радыкальных спосабаў супраць бальшавіцкіх настрояў у гімназіі. Аб гуманнасці, душэўнай цеплыні Якубёнка сведчыць, у прыватнасці, такі факт. У пачатку 1929 года ў Клецкую гімназію прыбылі новенькія — выключаныя за бальшавіцкую дзейнасць былыя гімназісты Віленскай, Навагрудскай і Радашковіцкай беларускіх гімназій. Якубёнак прыняў іх без усякіх роспытаў і ўмоў, хоць і ведаў, за што іх выключылі, бо пра гэта ў той час шырока пісала заходнебеларуская прэса.

Паяўленне ў Клецкай гімназіі новых выхаванцаў з'явілася штуршком для палітызацыі вучнёўскага калектыву. Гімназія робіцца аб'ектам пільнага назірання з боку нясвіжскага паліцэйскага камісарыята. «Маладыя бунтары» 18 лістапада 1929 года арганізавалі ў гімназіі бунт. У выніку дваццаць два камсамольцы былі выключаны з гімназіі, на чатырох з іх была заведзена крымінальная справа.

У справаздачы ад 29 лістапада навагрудскі ваявода даносіў міністру ўнутраных спраў Польшчы аб бунце ў Клецкай гімназіі. Ён даваў таксама наступную характарыстыку на Рыгора Якубёнка: «Дырэктар беларускай гімназіі ў Клецку Рыгор Якубёнак, з'яўляючыся па сваім перакананні «вывратоўцэм» (бунтаром) і агрэсіўным беларускім нацыяналістам, ставіўся ў некаторай ступені паблажліва да камуністычнай дзейнасці вучняў старэйшых класаў» (Дакумент захаваўся ў Дзяржархіве Гродзенскай вобласці).

Інакш думалі пра Якубёнка ў беларускім сялянска-рабочым клубе «Змаганне», які фактычна быў фракцыяй КПЗБ у сейме. У апублікаваным звароце з выпадку падзей у Клецкай гімназіі, ганьбячы ўрад Польшчы за расправу над гімназістамі, клуб беспадстаўна абвінаваціў педкалектыў, які быццам бы паспрыяў задуме паліцыі. Якубёнку клуб тады начапіў... ярлык «паслугача польскага фашызму». Да слова, «паслугач» страціў пасаду дырэктара. Але дзякуючы намаганням Якубёнка гімназію ўдалося захаваць яшчэ на два гады.

І ўсё ж хмары над Клецкай гімназіяй згушчаліся. Летам 1931 года пасля масавага раскідвання бальшавіцкіх лістовак клецкімі падпольшчыкамі камуністычная арганізацыя ў Клецкай беларускай гімназіі была ліквідавана. Дзесяткі гімназістаў трапілі за краты, а гімназію закрылі. Рыгор Якубёнак разам з прадстаўнікамі бацькоўскага камітэта ездзіў у Варшаву да прэзідэнта Польшчы з хадайніцтвам адмяніць гэта рашэнне. Але прэзідэнт адмовіў, прапанаваў Якубёнку на базе былой беларускай гімназіі стварыць гімназію польскую і самому ўзначаліць яе. Якубёнак, зразумела, не пагадзіўся.

Вярнуўшыся ў Клецк, Якубёнак перадаў маёмасць закрытай гімназіі ў Віленскую беларускую гімназію. Сам неўзабаве паехаў да роднага брата ў Залесінкі (што зараз у Шаркоўшчынскім раёне). Там займаўся цяслярствам, завёў пчол, любіў у святочныя дні сядзець на прызбе, пагутарыць з аднавяскоўцамі і падкрэсліць, што палякі ў Заходняй Беларусі не вечныя. Пасля вераснёўскіх падзей 1939 года Якубёнак згадзіўся працаваць у школе. Кожны дзень хадзіў пешшу ў суседнюю вёску, дзе была адкрыта сямігодка, там выкладаў беларускую мову і матэматыку. Зімой наступнага года па дарозе ў школу раптоўна памёр. Хто ведае, можа гэта выратавала яго ад смерці ва ўнкусаўскіх сутарэннях за беспадстаўны ярлык «паслугач польскага фашызму».

Кім жа быў Якубёнак па сваіх ідэйных і палітычных поглядах? Ён публічна ніколі не выказваў іх. Але з яго практычнай дзейнасці можна сцвярджаць, што Якубёнак — прагрэсіўны беларускі нацыянал-дэмакрат у еўрапейскім разуменні гэтага слова, шчыры патрыёт сваёй Бацькаўшчыны.

Што да асобы Рыгора Усцінавіча як чалавека — сапраўднага гуманіста і таленавітага педагога, то лепш, відаць, не скажаш за словы, якія прагучалі ва ўспамінах пра Клецкую беларускую гімназію былога яе вучня, вядомага самадзейнага кампазітара (які зараз жыве ў Гародні) Аляксандра Шыдлоўскага: «Для гімназістаў Якубёнак аддаваў усё, ён быў сапраўдным бацькам для іх. Для яго ўсе вучні былі роўныя. Ён імкнуўся да таго, каб як найбольш вучняў скончылі гімназію і папоўнілі рады свядомай беларускай інтэлігенцыі. Я думаю, што такі дырэктар застанецца ў памяці вучняў як добры, светлы чалавек».

**Васіль СОКАЛ.**

*Замежжа*

# Як мачаха

**Падзеі мінулага месяца ў Польшчы і Беларусі, навіны з абедзвюх краін, матэрыялы аб народнай і рэлігійнай абраднасці, гістарычныя даследаванні і хроніка літаратурнага жыцця — аб усім гэтым інфармуе чытачоў майскі нумар беластоцкага «Часопіса». Але гэтым разам замест агляду выдання мы прапануем чытачам пераклад аднаго з артыкулаў, надрукаваных у штомесячніку. Яго аўтар — галоўны рэдактар «Часопіса» Юры Хмялеўскі.**

У канцы сакавіка Польшчу наведала група журналістаў і парламентарыяў з Рэспублікі Беларусь. Мэтай візіту было азнаямленне з дзейнасцю польскіх інфармацыйных службаў і са становішчам беларускай нацыянальнай меншасці. Госці пабывалі ў рэдакцыі «Газэты выборчэй», размаўлялі з прадстаўнікамі праваслаўнай царквы, наведалі рэдакцыю тыднёвіка «Ніва» і сядзібу БГКТ. Вынікі візіту былі падсумаваныя на прэс-канферэнцыі ў беластоцкай рэдакцыі польскага радыё. Мясцовыя журналісты задалі гасцям шмат пытанняў. Найбольшае ўражанне, што потым было падкрэслена ў кожным паведамленні з прэс-канферэнцыі, стварыў выступ Міхаіла Бацяна, дырэктара Нацыянальнага прэс-цэнтра ў Менску. На ламанай польскай мове ён засведчыў, што беларуская нацыянальная свядомасць на Беласточчыне знікае. Гэта было прызнана ім нармальным.

Госць з Беларусі не зрабіў адкрыцця. Але такое непаважнае стаўленне здзіўляе. Калі б гэткае сцвярджэнне прагучала з вуснаў прадстаўніка іншага народа, гэтаму можна было б асабліва не здзіўляцца. Бо трэба быць сапраўды ўважлівым назіральнікам, каб у гэтай краіне заўважыць, акрамя палякаў, іншыя народы. Але калі падобнае выказванне ўспрымаць як прыклад стаўлення дзяржавы да сваіх суайчыннікаў за мяжой, дык атрымліваецца, што Рэспубліка Беларусь ставіцца да беларусаў — жыхароў Беласточчыны,— як мачаха. Сапраўднасць гэтага акраслення падкрэслівае мізэрная колькасць акцый «маці — Беларусі», скіраваных супраць дэнацыяналізацыі беларусаў Польшчы...

# Вучымся!

Мікалай КРЫЎКО

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

ПАЗВАНІЦЬ (выклікаць да тэлефона званком тэлефоннага апарата; паведаміць што-н. па тэлефоне) *Неяк увечары пазваніў па тэлефоне сын маіх знаёмых* (Бяганская). *Сяргей пазваніў таварышу і папрасіў яго зараз жа прыйсці* (Зуб), ПАТЭЛЕФАНАВА́ЦЬ *Следчы пачаў тэлефанаваць на пастарунак да каменданта* (Машара), ПАТЭЛЕФО́НІЦЬ разм. *Сяджу і тэлефаную, і прашу: — Дзяўчынка любая, у мяне такое гора — Ці не прынеслі вам маю душу, Якую я згубіў учора?* (Сербантовіч). *Патэлефоніць сястры ў Віцебск,* БРА́ЗНУЦЬ разм. *Сцяпан, калі запрашаў, наказваў бразнуць па тэлефоне са станцыі* (Аношкін), ЗВЯ́КНУЦЬ разм. [*Васіль Рыгоравіч:*] — *Я двойчы з імі размаўляў — ніяк, уперліся, як быкі ля броду, і ўся гутарка. Можа ты звякнеш, цябе лепш паслухаюць...* (Дубоўка), БРЫ́НКНУЦЬ разм. *Трэба брынкнуць родным па тэлефоне,* ДЗЫНКНУЦЬ разм. [*Марыля:*] — *Хочаш, зараз нават пазваню мужу — раскажу, як ты тут яго бэсціш? Пасмяецца! Ці не, чакай, дзынкну лепш гэтай удавіцы, яе пацешу, гаротніцу...* (Каршукоў). — Незак.: **Званіць, тэлефанава́ць, тэлефо́ніць, бра́згаць, звя́каць, дзы́нкаць.**

ПАЗВАНО́ЧНІК (асноўная частка шкілета ў чалавека і некаторых жывёл, якая складаецца з пазванкоў) *Быццам нешта зрушылася ў яе* [*Лёдзі*] *у пазваночніку, і яна не магла ўжо выпрастацца* (Карпаў), СПІННЫ́ (або СТАНАВЫ́) ХРЫБЕ́Т (гэтае спалучэнне звычайна ўжываецца як назва пазваночніка жывёл, а для назвы чалавечага пазваночніка мае прастамоўны характар), ХРЫБЕ́Т [*Чабаноўскі*] *абапёрся на яе плячо. Ядзя абхапіла рукой яго спіну, праз тонкі шынель адчувала востры хрыбет* (Асіпенка), ХРЫБЕ́ТНІК разм. *Чалавеку...* [*рысь*] *на карак скача, як жывёле, ломіць хрыбетнік* (Пташнікаў), ХРЫБЕ́ЦІНА разм. *Зыгмусь... угнуў галаву, а хрыбецінай і плечуком налёг на дошку* (Колас) ХРЫБЦІ́НА разм. *Карова жалобна мычала, трасучыся лахматаю хрыбцінаю ад сцюжы* (Гарэцкі).

ПАЗІРА́ЦЬ (час ад часу глядзець на каго-, што-н.) *Хлопцы штохвілінна пазіралі на гадзіннікі* (Новікаў), ПАГЛЯДА́ЦЬ *Калгаснікі гутарылі паміж сабою таямніча-прыцішана ды раз-пораз паглядалі на новую хату старшыні калгаса* (Кавалёў), ПАГЛЯ́ДВАЦЬ *Жмурачыся на сонцы, ён* [*дзед Архіп*] *зрэдку паглядваў на нявесту, якая сядзела ў яго за спіной* (Лынькоў), ПАЗІ́РКВАЦЬ разм. *Пазірквае з вайчка пагляд здзіўлёны замлелага малойчыка-вартаўніка* (Лойка).

ПАЗНАВА́ТА (даволі позна) *Пазнавата пачалося яе вялікае шчасце* (Шамякін), ЗАПО́ЗНА разм. *Рыбак схамянуўся і пацягнуў. Запозна, — вуда з пустым кручком* (Брыль).

1. ПАЗНАЦЬ (выявіць у кім-н. каго-н. знаёмага або ў чым-н. што-н. знаёмае) *Раптам прыезджы павярнуўся, і Віця пазнаў яго: гэта быў Запольскі* (Пальчэўскі), ПРЫЗНАЦЬ [*Марыя Іванаўна*] *добра да яго прыгледзелася, нават падышла бліжэй і з вялікім здзіўленнем прызнала ў ім былога ахоўніка завода* (Няхай), СПАЗНАЦЬ — *Ды гэта ж Марына, нябожчыка Антона дачка,— першая спазнала прыйшоўшую і загаварыла... Агрыпіна* (Кавалёў), УГАДАЦЬ разм. *Павел Іванавіч зноў паказвае рукою, але адчувае, што здалёк Надзя можа і не ўгадаць гэтага дома* (Кулакоўскі).— Незакончанае трыванне: **Пазнава́ць, прызнава́ць, спазнава́ць, уга́дваць.**

2. ПАЗНАЦЬ (каго-што, пераважна ў кім-чым; па якіх-н. прыметах, асаблівасцях устанавіць прыналежнасць каго-, чаго-н. да ліку, разраду каго-, чаго-н.). *Толькі па дзвюх абгарэлых бярозах, што калісьці стаялі перад хатай, стары пазнаў месца, дзе пражыў усё сваё доўгае жыццё* (Шамякін), ВЫЗНАЧЫЦЬ *Вартавы драмаў, утуліўшы галаву.., і вызначыць, хто ён — немец ці наш, было цяжка* (Лупсякоў), РАСПАЗНАЦЬ *Гук не сціхаў і быў ужо бліжэй. Ужо можна было распазнаць, што нехта едзе* (Колас), УГАДАЦЬ *Вядомы акцёр і рэжысёр, Галубок прафесійным чуццём угадаў у Міхасю драматурга* (Рамановіч), АПАЗНАЦЬ *Пні доўгія, але высокія, і лёгка іх апазнаць, што яны з-пад сякеры* (Пташнікаў).— Незак.: **Пазнава́ць, вызнача́ць, распазнава́ць, уга́дваць, апазнава́ць.**

3. ПАЗНАЦЬ (набыўшы неабходныя веды, атрымаць уяўленне пра з'явы рэальнай рэчаіснасці, іх сутнасці) *І пазнаў я жыццёвую тайну,— дзве слязы як упалі на грудзі...* (Трус), СПАЗНАЦЬ *Люба спазнала тайну граматы. Чытаць — гэта было таксама вялікай асалодай* (Кудраўцаў), ЗВЕДАЦЬ *Радасна было ісці ўсё далей і далей, каб зведаць невядомае, убачыць небачанае* (Колас), ПАЗНАЦЦА разм. *Я пазнаўся з тайнамі юнацтва* (Гілевіч).— Незак.: **Пазнава́ць, спазнава́ць, зве́дваць, пазнава́цца.**

1. ПАЗЫЧЫЦЬ (даць каму-н. што-н. на пэўны час з умовай вяртання назад) [*Язэп:*] — *Калі вам так патрэбны грошы, дык я вам пазычу* (Бядуля), АДЗЫЧЫЦЬ разм.— *Гэй, Кудрэйка... Выруч, стары: адзыч траяк, ды хутчэй, не думай!..* (Вышынскі), ДАЦЬ У ДОЎГ *Свой лажок я пачысціў вясной: Сеяў шнур — у доўг даў магазін,— Цяпер, глянь! луг занесен вадой, Колас, глянь! ці ёсць цэлы адзін?* (Купала).— Незак.: **Пазыча́ць, адзыча́ць, дава́ць у доўг.**

2. ПАЗЫЧЫЦЬ (узяць у каго-н. што-н. на час з умовай вяртання) *Маці кінулася да суседзяў, каб пазычыць у каго сена* (Якімовіч). *Розум не сякера, не пазычыш* (прыказка), ПЕРАХАПІЦЬ і ПЕРАХВАЦІЦЬ (пазычыць у каго-н. на кароткі час) *Лепш перахапіць у каго лішні рубель* (Даніленка). [*Тацяна:*] *Я заўсягды з сабой дзесятку, а то і дваццацьпятку нашу, каб пры нагодзе не бегаць, не перахопліваць у каго* (Гіль). *Учора яшчэ перахватваў* [*сябар*] *пяцёрку да зарплаты і пазычаў гальштук у хлопцаў, каб пайсці на спатканне з дзяўчынай* (Васілевіч).— Незак.: **Пазыча́ць, перахо́пліваць і перахапля́ць, перахва́тваць.**

УДАКЛАДНІМ

## Знакі прыпынку пры ўстаўных словах, словазлучэннях і сказах

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

**(Заканчэнне).**

4. Калі ў склад устаўных канструкцый, выдзеленых працяжнікамі або дужкамі, уваходзяць пабочныя словы ці сказы, то гэтыя словы і сказы звычайна аддзяляюцца або выдзяляюцца ва ўстаўных канструкцыях пры дапамозе коскі: *Боты — і выцер жа іх, здаецца! — усё ж такі наслядзілі на чыстай падлозе* (Я. Брыль). *Трава на ўзмежку (скошаная, відаць, нядаўна) яшчэ не ўспела высахнуць* (Кузьма Чорны). *Ад блізарукасці ён прыплюшчыў вочы (а зусім не ад пагарды да людзей, як маглі падумаць тыя, хто не ведаў яго)* (І. Мележ).

5. Калі ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы размешчаны за пабочнымі словамі, словазлучэннямі і сказамі, але не звязаны з іх зместам, то пабочныя словы, словазлучэнні і сказы выдзяляюцца сваімі знакамі (коскамі), а ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы — сваімі (працяжнікамі), напр.: *Сымон, трэба ж дадумацца,— стары жартаўнік! — сабраўся аладкі пячы* (Змітрок Бядуля). *Я, магу прызнацца,— дзівак! — сам думаў пра гэта* (А. Чарнышэвіч).

Калі ж устаўныя словы, словазлучэнні і сказы звязаны са зместам пабочных слоў, словазлучэнняў і сказаў, тады ўсё спалучэнне гэтых адзінак аддзяляецца або выдзяляецца пры дапамозе коскі, а ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы бяруцца ў дужкі, напр.: *Мы, прабачце (проста сорамна гаварыць), не змаглі перабрацца за раку* (С. Баранавых). *Якраз здалося яму (ці можа гэта і сапраўды было), раённы начальнік вельмі нешта прыглядацца пачаў на Галену* (Кузьма Чорны).

6. Калі ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы звязаны з аднароднымі членамі, адасобленымі зваротамі ці прэдыкатыўнымі часткамі складанага сказа, то яны аддзяляюцца або выдзяляюцца знакамі прыпынку разам з гэтымі канструкцыямі: *Недалёка ад мястэчка, дзе я пачаў вучыцца ў школе (гэта было ў 1922 годзе), знаходзілася невялікая вёска Стычына* (А. Чарнышэвіч). *Важна надзьмуўшы шчокі — а гэта азначала, што ён трохі ўтаміўся,— Васіль стаў распранацца* (Якуб Колас). *Час мінае — я сам таму сведка,— надыходзіць нарэшце вясна* (А. Куляшоў).

7. Калі ўстаўныя словы і словазлучэнні знаходзяцца ў канцы сказа і суправаджаюцца яркай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай, то яны бяруцца ў дужкі (з клічнікам перад закрываючай дужкай) і ў залежнасці ад будовы ўсяго сказа могуць аддзяляцца ад яго членаў працяжнікам: *Яны хутка выканалі загад — (малайцы!)* (М. Гарэцкі). *У кошыку было шмат маладых баравікоў — (больш за сто!)* (В. Каваль).

У залежнасці ад кантэксту працяжнікам могуць аддзяляцца таксама ўстаўныя сказы, якія ўзяты ў дужкі: *Узнялі вятры трывогу — (чуцен грозны гоман хваль)* (Цётка). *Усе птушкі змоўклі — (нас ахапіла цішыня)* (Якуб Колас). *Былі між імі хлопец з дзяўчынай — (іх скутых гналі)* (М. Танк).

8. Калі ўстаўныя сказы або іх функцыянальныя аналагі размешчаны непасрэдна за самастойным сказам, то пасля такога сказа ставіцца знак прыпынку, які патрабуецца яго зместам і інтанацыяй, а ўстаўныя канструкцыі пачынаюцца з вялікай літары і (разам са сваімі знакамі прыпынку ў канцы) бяруцца ў дужкі: *У паветры кружылі лёгкакрылыя ластаўкі, чырыкалі непаседлівыя вераб'і, працавіта гулі пчолы. (Была сонечная ліпеньская раніца.)* (Змітрок Бядуля). *Мой голас вельмі ціхі. (Чаму такі ціхі ў мяне голас?)* (С. Баранавых). *Яна пяшчотна гладзіла светлыя валасы малога. (Зусім як у Сямёна...)* (Б. Мікуліч). *У той дзень было ясна, сонечна. Пасля поўдня моцна прыгрэла сонца, і з дрэў закапала снегавая вада... (Былі апошнія дні лютага.)* (Кузьма Чорны).

*Хачу ведаць*

## «На лад персідскі...»

***Нядаўна мы надрукавалі ліст «Увесь горад піша...» Д. Абрамычава, настаўніка з Салігорска, і адказ на яго. Свае меркаванні выказваюць і два нашыя чытачы.***

І ў нас у мінулым годзе хтось з настаўнікаў пытаўся, як пісаць дату: *сёмае верасня* ці *сёмага верасня?*

У Беларусі ніколі не гавораць *якое чысло?*, а — *якога сёння.* І яшчэ ў студэнцкія гады, і пазней на курсах заўсёды паўтаралі, што дату трэба пісаць з канчаткам *-ага.* Напісанне ж *пятае, шостае* прыводзілася як прыклад заняпаду беларушчыны ў абруселых школах, як нейкі парадокс.

А яшчэ ў падручніках 6—7 класаў па беларускай мове была рэпрадукцыя карціны, якая называлася «Першага верасня» (дзяўчынка збіраецца ў школу). Але потым у час «зліцця моў» было прынята «мудрае рашэнне», і на ўроках беларускай мовы пачалі пісаць дату на расійскі лад, бо, маўляў, усё роўна беларуская мова адмірае і кожны культурны чалавек павінен гэты працэс прыспешваць. Гэта быў той час, калі настаўнік беларускай мовы павінен быў пасля ўрока, у настаўніцкай размаўляць па-расійску.

Але навошта цяпер пісаць на расійскі лад? І цяпер у падручніку тая ж карціна «Першага верасня». Колькі пытанняў задалі вучні: «Чаму напісанне даты не супадае з напісаннем назвы карціны?» А што скажаш пра такія непаразуменні? Адно думаеш, што паднявольныя, «на лад персідскі ткуць яны...»

Паважаная рэдакцыя! Паважаны Ніл Сымонавіч! Скажыце сваё слова!

**Павел ДУБОК.**

## Сінтаксічныя русізмы

Для таго каб даць адказ на гэтае пытанне, варта звярнуцца да тых часоў, калі ўзнікла неабходнасць датаваць дакументы, лісты, летапісныя паведамленні і да т. п. У старабеларускіх хранікальных творах знаходзім такую, напрыклад, формулу: «*Другого дня мая месяца...*» Пазней утварыўся эліпс, г. зн. канструкцыя з пропускам апорных слоў: «*Другога... мая...*» Значыць, спрадвечна беларускай формаю будзе эліптычная канструкцыя з парадкавым лічэбнікам у родным склоне: «*Шостага студзеня*», а не «Шостае студзеня».

Форма ж *першае верасня,* якая зараз прынятая ў школьнай практыцы,— відавочны сінтаксічны русізм. Утварылася яна, верагодна, наступным чынам. Назва месяца, як і ў спрадвечна беларускай форме — эліптычная, парадкавы ж лічэбнік мае субстантываваную форму, г. зн. выступае як назоўнік (накшталт слоў «целое, прошлое»), на што ўказвае форма ніякага роду. Такім чынам, беларуская канструкцыя мае тую перавагу перад адпаведным русізмам, што — у адрозненне ад апошняга, «эклектычнага» (субстантыў + эліпс) — мае больш, скажам так, гарманічную будову: эліпс + эліпс.

Дарэчы, падобныя сінтаксічныя русізмы проста пануюць у нашай мове. Напрыклад, выраз «больш таго» па-беларуску павінен гучаць «больш за тое» (менавіта так піша сучасная «Наша Ніва»), у чым лёгка пераканацца, параўнаўшы гэтую канструкцыю з аналагічнай «лепш за тое», а не «лепш таго».

Выкарыстанне сінтаксічных русізмаў вядзе да павольнага разбурэння не толькі ўласна беларускіх сінтаксічных схем, але да разбурэння беларускай моўнай логікі наогул.

**Зміцер САЎКА,**
**выкладчык МДЛУ.**

*Як ужо паведамлялася, у траўні ў Менску адбылася Першая нацыянальная канферэнцыя «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі». У кароткай справаздачы пра яе работу, што надрукавана ў мінулым нумары нашай газеты, немагчыма было расказаць нават пра самыя цікавыя даклады, паведамленні і выступы ў дыскусіях. Таму пачынаем друкаваць пераказы іх. Першым — даклад Генадзя Цыхуна. (Падзел і загалоўкі рэдакцыйныя).*

# МОЎНАЯ ЭКАЛОГІЯ

*«Мовы з'яўляюцца не толькі сродкам выражэння ўжо зведанай ісціны, але і, больш за тое, сродкам адкрыцця раней невядомай».*

Тэрміналагічная праца набывае цяпер выключнае значэнне не толькі для пашырэння ўжывання беларускай мовы ў навуковай і некаторых іншых спецыфічных сферах, дзе яна за гады таталітарызму страціла свае пазіцыі. Менавіта страціла, але даробак мае значны, пра што, на жаль, не ведаюць. Мала спецыяльных слоўнікаў, тэрміналагічны вопыт беларускіх вучоных не прапагандуецца. А таму склалася ўяўленне пра нераспрацаванасць беларускай навуковай тэрміналогіі, а таксама іншай спецыяльнай тэрміналогіі.

## ГУМБАЛЬТ СУПРАЦЬ ПАТУПЫ

Прынцыповае палажэнне тэрмінатворчасці — грунтавацца на уласных моўных рэсурсах — не прымаецца нават некаторымі прыхільнікамі беларушчыны з ліку тэхнічнай інтэлігенцыі. Што ўжо казаць пра незычлівых?! Яны гавораць пра бесперспектыўнасць выкарыстання беларускай мовы ў розных спецыяльных сферах, а таксама стварэння беларускай навуковай тэрміналогіі і, адпаведна, падручнікаў і дапаможнікаў. Такую пазіцыю агрэсіўна-русіфікатарскай часткі нашага грамадства выклаў генеральны дырэктар выдавецка-паліграфічнай кампаніі «Эрыдан» А. Патупа: «Белорусский язык не в том ныне состоянии, чтобы насиловать его ускоренным внедрением в научно-техническую, производственную и деловую сферы... А в области, скажем, научно-технической и деловой нам, откровенно говоря, куда важней внедрять интенсивное обучение английскому, чем белорусскому, в упомянутых областях во многом еще не сформированному».

Падобныя праблемы існуюць не толькі ў Беларусі, але паўставалі і паўстаюць да гэтага часу перад шмат якімі народамі, асабліва маланікімі. Таму варта звярнуцца да здабыткаў маладой навукі, якую называюць моўнай экалогіяй, і якая скіравана ў першую чаргу на захаванне моўнай разнастайнасці свету. Яшчэ адзін з першых вучоных, хто сфармуляваў асноўныя прынцыпы моўнай экалогіі,— Вільгельм фон Гумбальт сцвярджаў, што «шляхам разнастайнасці моў непасрэдна збагачаюцца нашы веды пра свет і тое, што пазнаецца намі ў гэтым свеце; адначасова пашыраецца для нас і дыяпазон чалавечага існавання». Ён жа абгрунтаваў прынцып раўнацэннасці моў, якi падтрымлiваецца агульначалавечай мэтай зразумення ісціны, бо «мовы з'яўляюцца не толькі сродкам выражэння ўжо зведанай ісціны, але і, больш за тое, сродкам адкрыцця раней невядомай».

Так славуты нямецкі вучоны даў адказ на пытанне, ці пагражае шматлікасць моў адзінству і прагрэсу навуковых ведаў. В. фон Гумбальт адпаведна сваёй агульнай канцэпцыі даў накірунак гуманістычнага вырашэння пытання: «Паміж будовай мовы і поспехамі ў іншых галінах інтэлектуальнай дзейнасці існуе бясспрэчная ўзаемасувязь». Гэта значыць, што спроба звесці моўную разнастайнасць да сістэмы фармалізаваных знакаў ці да аднамоўнасці навукі зусім не служыць прагрэсу, бо аўтаматычна звужае фронт навуковых пошукаў. А таму зразумела эўрыстычная (адкрывальніцкая) вартасць тэрміналогіі, што ствараецца на моўных рэсурсах беларускай мовы, бо гэта адкрывае новыя магчымасці і падыходы ў пазнанні ісціны.

Зразумела, не выключаецца магчымасць засвойваць чужыя тэрміны і карыстацца імі, але гэты шлях — дадатковы, а не асноўны сродак у працэсе пазнання. Тэрміналогія павінна грунтавацца на сваёй, а не на чужой мове, бо толькі так мы будзем глядзець на свет сваімі вачыма, а значыць, і бачыць тое, што іншыя не заўважаюць ці бачаць з іншага боку.

## НЕКАТОРЫЯ КАНКРЭТНЫЯ ЗАДАЧЫ

1. Улічваць традыцыі і здабыткі 20—30-х гадоў, калі былі закладзены асновы нацыянальнай навуковай тэрміналогіі з апорай на рэсурсы беларускай мовы. Некаторыя пурыстычныя тэндэнцыі пачатку 20-х гадоў гістарычна цалкам апраўданыя, бо канца тага дзесяцігоддзя энтузіязм стварэння беларускіх неалагізмаў занік, шмат якія з іх былі заменены інтэрнацыянальнай лексікай. Але ўжо з 1933 года, як падае вядомы даследчык П. Векслер у сваёй навуковай працы пра тэндэнцыі беларусіфікацыі, русіфікацыі і паланізацыі ў беларускай мове 1890—1982 гадоў, адзіна магчымай стала антыпурыстычная прарасійская арыентацыя. І сталася гэта вынікам грубага ўмяшальніцтва ў моўныя працэсы з палітычных і ідэалагічных матываў.

Імкненне некаторых сучасных тэрмінолагаў вярнуцца да пачатку 20-х гадоў здаецца беспадстаўным, бо ігнаруе здабыткі нацыянальнай тэрміналогіі на вельмі важным адрэзку яе развіцця. Прыкладам, у 60—70-я гады, асабліва ў сувязі з падрыхтоўкай выдання Беларускай Энцыклапедыі, з'явіліся парасткі натуральнай тэрмінатворчасці (згадваецца *свідравіна* замест нафтавай шчыліны, *радовішча* замест месцанараджэння).

2. Працягваць збіраць народныя тэрміны дзеля папаўнення сучаснай тэрміналогіі. С. Някрашэвіч і М. Байкоў у «Расійска-беларускім слоўніку» (1928 г.) прапанавалі шэраг народных тэрмінаў, што мелі ўсе падставы замацавацца ў якасці тэрмінаў замест штучных неалагізмаў, русізмаў ці інтэрнацыяналізмаў. Варта ўспомніць так званы слоўнік Б. Эпімаха-Шыпілы, які ўяўляў сабой выпіскі з мільённай картатэкі жывой беларускай мовы, што да вайны захоўвалася ў Інстытуце мовазнаўства Беларускай акадэміі навук. Ён ставіў на мэце выявіць арыгінальныя беларускія адпаведнікі для некаторых іншамоўных тэрмінаў. Карысна было б скласці ідэаграфічны дыялектны слоўнік нашай мовы, што дало б магчымасць паказаць усё багацце народнай тэрміналогіі, асабліва ў такіх сферах, як назвы грыбоў, раслін.

3. Распрацоўваць вузкаспецыяльныя тэрміналагічныя сістэмы, што вымагаецца сучаснай вузкай спецыялізацыяй навукі, вытворчасці. Трэба пераходзіць ад стварэння тэрміналагічных макрасістэм да спецыялізаваных мікрасістэм. Дарэчы, сістэмнасці лягчэй дасягнуць у межах вузкіх тэрміналагічных груп — лягчэй сканструяваць аптымальную парадыгмальную мадэль.

4. Ствараць банк дадзеных па беларускай тэрміналогіі. Дзеля гэтага неабходна максімальна поўна ўлічыць усе кантэксты ўжывання таго або іншага тэрміна. Іншымі словамі, трэба ствараць своеасаблівыя зборы тэрмінаў па пэўных галінах навукі і тэхнікі. Такі банк можна стварыць толькі на камп'ютэрнай базе, бо па некаторых напрамках прыйдзецца апрацоўваць вялікія тэксты. Але на такой аснове можна ствараць умовы для сапраўды навуковай тэрміналагічнай працы.

5. Трэба як мага шырэй абмяркоўваць канкрэтныя тэрміны ў друку, у першую чаргу спецыялістамі. Для стымуляцыі такой зацікаўленай гаворкі мэтазгодна друкаваць не толькі вялікія слоўнікі, але і невялікія падборкі тэрмінаў з той ці іншай спецыяльнасці. Пры гэтым трэба прыняць за сістэму падаваць па некалькі варыянтаў тэрмінаў, ставячы наперадзе той, які, на думку аўтара, мае перавагу.

# Гісторыя Беларусі ў пытаннях і адказах

## Што такое Слуцкі збройны чын?

Увосень 1920 года, калі Расея і Польшча падпісалі замірэнне, вызначаная дэмаркацыйная лінія Кіевічы—Лань і нейтральная зона паўз яе прайшлі праз Случчыну. Варта адзначыць, што Случчына была адной з найбагацейшых і найбольш нацыянальна сведамай беларускай правінцыяй. Тут традыцыйна існаваў моцны асяродак нацыянальна-вызваленчага руху.

Гэты час міжуладдзя, калі палякі адступілі, а бальшавікі яшчэ не прыйшлі, беларускія дзеячы ў Слуцку выкарысталі для арганізацыі змагання за самастойную Беларусь, за ўсталяванне ўлады Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанай у сакавіку 1918 года.

14 лістапада 1920 года быў склікаы з'езд Случчыны, які выбраў часовы ўрад — Раду Случчыны на чале з Уладзімірам Пракулевічам. З'езд пастанавіў распачаць збройнае змаганне супраць чужынцаў. Рада пачала стварэнне вайсковых фармаванняў, была аб'яўленая мабілізацыя, якая прайшла вельмі актыўна сярод насельніцтва Слуцкага павета — Цімкавічаў, Капыля, Семежава, Грозава і іх ваколіцаў. У кароткім часе сабралася блізу 10 000 чалавек. Беларускія жанчыны з Горадні прыслалі для случакоў сцяг з прыгожа вышытаю «Пагоняю» і надпісам: «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».

Былі сфармаваныя два палкі: 1- ы Слуцкі полк на чале з падпалкоўнікам Ахрэмам Гаўрыловічам і 2- і Грозаўскі полк пад камандаю капітана Семенюка, аб'ядная ў Слуцкую брыгаду, якую ўзначальваў Антон Сокал-Кутылоўскі. У сувязі з наступам Чырвонай арміі штаб паўстання быў перанесены са Слуцка ў Семежава.

27 лістапада пачаліся баі. Асабліва адчувальныя для бальшавікоў былі ўдары па лініі Капыль — Цімкавічы — Вызна. Супраць случакоў была кінута Омская дывізія. Яны мужна змагаліся, іх шырока падтрымлівала мясцовае насельніцтва, але сілы былі няроўныя. Пасля больш як месяца ўпартых баёў нашы ваяры змушаныя былі адысці за раку Лань, дзе былі разаброеныя палякамі і змешчаны ў спецыяльным лагер для інтэрнаваных асобаў.

Сярод найбольш актыўных удзельнікаў змагання былі Павел Жаўрыд, Юрка Лістапад, Макар Краўцоў (аўтар ваяцкага марша «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»), Васіль Русак, Аляксей Кабычкін, Юльян Сасноўскі, Янка Біруковіч. Многія са змагароў вярнуліся пазней на радзіму, паверыўшы ў магчымасць адбудовы Беларускага гаспадарства пад бальшавікамі, але былі знішчаныя ў часе рэпрэсій.

Падзеі 1920 года ўвайшлі ў гісторыю пад назовам Слуцкі збройны чын, або Слуцкі збройны ўздым (часам гэта называюць паўстаннем, але такі назоў не зусім адпавядае сутнасці падзей). Яны з'яўляюцца яскравым сведчаннем нязгаснага імкнення беларускага народа да незалежнасці, яго рашучасці ў змаганні за волю.

Ганна СУРМАЧ.

## Якія былі мэты польскага змагання з беларускім нацыянальным рухам у Заходняй Беларусі?

Польскія ўлады ў 20—30-х гадах праводзілі ў Заходняй Беларусі палітыку паланізацыі карэннага насельніцтва, каб зрабіць край этнічна польскім і такім чынам назаўсёды замацаваць сваё панаванне на нашых землях. «Крэсы Усходнія» — як яны называлі заходнебеларускія землі — мелі для тагачаснае Польшчы выключнае, перадусім эканамічнае, значэнне. Так, у бюджэце на 1924 год першыя два месцы ў структуры польскага экспарту займалі беларускі лес і ўкраінская нафта. Беларуская сыравіна і прадукцыя сельскае гаспадаркі фактычна трымалі канверсаванасць польскай залатоўкі ў Эўропе. Вывозячы з беларускіх земляў каштоўную сыравіну, Польшча навадняла яе неканкурэнтаздольнымі на еўрапейскім рынку нізкаякаснымі таварамі.

Беларускае насельніцтва было пастаянным чыннікам нестабільнасці, а пры пашырэнні нацыянальна-вызваленчых ідэй станавілася адкрыта пагрозлівай і варожай для польскай акупацыі сілай. «Вогнішча беларушчыны», паводле словаў аднаго з ідэолагаў польскай каланізацыі Заходняй Беларусі У. Студніцкага, стварала б сур'ёзную пагрозу каланіяльным планам Польшчы. Таму невыпадкова дзейнасць у Заходняй Беларусі нацыянальных арганізацыяў па выхаванні самасвядомасці, прапагандзе ідэі аб'яднання ўсіх беларускіх земляў у адну дзяржаву, выданне беларускамоўнай літаратуры, адкрыццё школ і навуковых установаў, іншыя формы працы выклікалі рэпрэсіі з боку польскай улады. Арышты беларускіх настаўнікаў і дзеячаў культуры, канфіскацыя газет і часопісаў, зачыненне беларускіх гімназій у Барунах, Навагрудку, Клецку, Радашкавічах ды іншых месцах, публічныя палітычныя судовыя працэсы над нашымі патрыётамі, катаванні беларускіх дзеячаў у турмах Лукішкі, Вронкі, у Картуз-Бярозе ды інш., дыскрымінацыйнае ў дачыненні да беларускага насельніцтва школьнае, аграрнае, рэлігійнае заканадаўства — вось няпоўны пералік рэаліяў з жыцця Заходняй Беларусі пад польскай уладай.

Уціск і дыскрымінацыя беларусаў набылі такія памеры, што супраць гэтага пачалі выказваць свой пратэст міжнародная грамадскасць і нават некаторыя польскія дзеячы, як, напрыклад, С. Жаромскі, а таксама пасобныя палітычныя арганізацыі.

Юрась КАЛАЧЫНСКІ.




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Магутная і непаўторная духоўная сіла ўласцівая лірыцы выдатнага аўстрыйскага паэта Райнэра Марыі Рыльке [1875—1926].

*Райнэр Марыя РЫЛЬКЕ*

* * *

Мы — толькі рот. А сэрца як апець
У рэчах! Той магутны ўдар, які
На кволыя падзелены штуршкі
У нас! Яго вялікі боль сцярпець
І веліч радасці — не маем сіл.
І вырываемся з яго зусім; —
Мы ж — толькі рот.

А той вялікі ўдар —

Сардэчны наш узломвае спачын —
І мы крычым...
Тады мы сутнасць, новы твор і твар.

## Заклінанне змей

Калі на рынку прыкладзе да вуснаў
Свістульку-флейту заклінальнік змей,—
То рэзкая, то мяккая ігра індуса,
Бывае, што з мурашніка людзей

Прывабіць слухача бліжэй да дудкі,
Якая квола, ціхенька спярша,
Змушае потым рытмам палка-гнуткім
Рэптылію ўспружыніцца з каша,

Пасля ігрой пагроз і ласкі — гада
Змякчае зноў... Нарэшце, самахоць,
Без флейты здольны ўжо факір паглядам
Табе апатыю ўсяліць у плоць,

Тугу смяротную. Як з неба замець
Агнём акрые. І няма ўжо сіл.
Грымаса — твар. Прыправай вострай памяць
Паўночную індус прыцерусіў.

Ніпто цябе ўжо не ўратуе — позна!
І больш няма табе дарог назад —
Ствалы наўкол выпростваюцца злосна,
Трымцяць залозы змей, іскрыцца яд.

* * *

Цэлы свет быў у абліччы мілай —
Раптам выліўся й разліўся ён:
Не сабраць яго, не ахапіць.

Што ж не піў яго я з поўнай чашы! —
Гэты свет любімага аблічча,
Блізкі, і духмяны, і салодкі!

Ах, я піў. Піў свет я неспатольна.
Толькі перапоўнены быў светам
І, п'ючы, разліўся з берагоў.

*Пераклад з нямецкай*
*Васіля СЁМУХІ.*

*Фестывалі* *Фестывалі*

# «ВЯЛІКДЗЕНЬ-94»

*Напярэдадні майскіх свят у культурным жыцці сталіцы адбылася значная падзея: фестываль яскравых, самабытных фальклорных калектываў «Вялікдзень-94». Тое, што мы пабачылі і пачулі, дае права сказаць, што народная творчасць сапраўды ўваходзіць у наша паўсядзённае жыццё. Яна адраджаецца сама і служыць адраджэнню нашай мовы, годнасці беларускага народа. Яе прапагандыстамі і папулярызатарамі на сучасны момант становяцца творчыя гурты і ансамблі. Для іх характэрны не толькі высокі ўзровень выканаўчай культуры, але і ўсведамленне, так бы мовіць, сваёй гістарычнай місіі, беражлівае стаўленне да народных скарбаў. Таму фестывальная рада ў сваіх ацэнках зыходзіла з таго, наколькі песні, танцы і абрады, што выконваліся на сцэне, блізкія да сваёй першаасновы — жывога, аўтэнтычнага фальклору, перадаюць яго дух і змест.*

ЯК І ПААБЯЦАЎ прэзідэнт Асацыяцыі фальклярыстаў Беларусі Васіль Ліцвінка, адкрываючы фестываль, прысутныя не пабачылі шлягернага, вульгарнага выканання фальклорных твораў. Можна толькі гаварыць аб узбагачэнні народных мелодый нейкімі варыяцыямі, падгалоскамі і іншымі сродкамі мастацкай выразнасці. Вялі канцэрт — шчыра і эмацыянальна — артысты спеўна-інструментальнага гурта «Гармонія» Алена Буглак і Славік Статкевіч. Усяго ў фестывалі ўдзельнічала восем гуртоў — дзевятым быў ганаровы госць, Дзяржаўны ансамбль народнай музыкі «Свята». Выступілі і дзіцячыя калектывы. У фае філфака Беларускага



Спеўны ансамбль «Дзянніца».

дзяржаўнага універсітэта, у якім праходзіў фестываль, сустрэлі гасцей валачобнымі песнямі дзеткі з дзіцячага сада № 455 (мастацкі кіраўнік Наталля Стульчыкава). Цудоўна выступіў дзіцячы калектыў з эстэтычным ухілам «Калі ласка» з ансамблем «Квецень», з калектывам «Янка» выступілі дзеці з інтэрцэнтра «Бела» (мастацкі кіраўнік Людміла Баранава).

У арганізацыі фестывалю і рабоце конкурснай рады прынялі ўдзел першы намеснік міністра культуры і друку, старшыня аргкамітэта Міжнароднага фестывалю фальклору Уладзімір Гілеп, Асацыяцыя фальклырыстаў Беларусі на чале са сп. Ліцвінкам, Міжнародная асацыяцыя гуманітарнага супрацоўніцтва (выканаўчы дырэктар Уладзімір Аляшкевіч), інтэрцэнтр «Бела» (прэзідэнт Ірына Антонава), рэктар Беларускага інстытута праблем культуры і дырэктар Міжнароднага фестывалю фальклору Уладзімір Скараходаў, Цэнтр беларускіх народных рамёстваў «Скарбніца», які падрыхтаваў выставы народных строяў і вырабаў (намеснік дырэктара Анатоль Луцкі), аб'яднанне «Ранет-92» (генеральны дырэктар, пісьменнік Валерый Сарока), які паклапаціўся аб тым, каб на фестывалі было што з'есці і выпіць. У зале прысутнічалі спецыялісты па фальклорнай творчасці і ганаровыя госці: народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч, Ніл Гілевіч, Алег Трусаў, прафесар Варшаўскага універсітэта, віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі фалькларыстаў Беларусі Алесь Баршчэўскі. Фестывальны канцэрт доўжыўся некалькі гадзін. Апошнім выступіла «Свята», паставіўшы прыгожую кропку сваім прафесіяналізмам. Калектывы былі ўзнагароджаны ганаровымі граматамі Міністэрства культуры і друку за найбольш адметную рысу сваёй творчасці.

Спеўны ансамбль «Дзянніца» (мастацкі кіраўнік Ірына Міронава), які вылучаўся дакладнай манерай выканання народных песень, быў адзначаны за спеўную культуру.

Спеўна-інструментальны ансамбль «Неруш» (мастацкі кіўраўнік Валянціна Гладкая), для якога характэрна імкненне перанесці на сцэну, пачынаючы ад строяў, рэгіянальныя асаблівасці розных этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі, быў адзначаны за аўтэнтычнае выкананне фальклорных песень і абрадаў.

У тэатралізаванай форме выконваліся абрад «Куст» і іншыя абрадавыя дзеянні ў цудоўным інструментальным суправаджэнні.

Спеўна-інструментальны гурт «Тутэйшая шляхта» (мастацкі кіраўнік Леанід Махнач), выступленне якога запамяталася па «лірычна-настальгічным» вальсе «А на Беларусі Бог жыве», быў адзначаны за шляхетную, далікатную, артыстычную інтэрпрэтацыю народных песень.

Спеўна-інструментальны ансамбль «Крэсіва» (мастацкі кіраўнік Анатоль Казак), у рэпертуары якога малавядомыя народныя песні Заходняга Палесся і старажытная абрадавая музыка, быў адзначаны за самабытнасць, а менавіта за этнаграфічную дакладнасць выканання твораў і прафесіяналізм.



Вандроўныя музыкі «Янка».

Вандроўныя музыкі «Янка» (мастацкі кіраўнік Вадзім Міраванаў) — гурт, які так імкнецца ўзнавіць вясёлае, забаўляльнае, паўсядзённае выкананне фальклору, быў узнагароджаны за знешнюю прывабнасць строяў і артыстычнасць.

Спеўна-інструментальны гурт «Дзіва» (мастацкі кіраўнік Іван Кірчук) быў адзначаны за абрадавую тэатралізацыю народных песень — валачобных, вяснянак, гумарыстычных.

Спеўна-інструментальны ансамбль «Квецень» (мастацкі кіраўнік Аляксей Буйневіч) быў адзначаны за найбольш гумарыстычную праграму. Гэта той ансамбль, які стараецца «расквеціць» інструментамі народныя песні.

Спеўна-інструментальны ансамбль «Гармонія» (мастацкі кіраўнік Міхась Слізкі), для якога таксама характэрна тэатралізаванае выкананне абрадавых песень, быў адзначаны за лепшую інтэрпрэтацыю валачобнай песні.

У канцы імпрэзы прагучалі выступленні некаторых арганізатараў фестывалю і яго гасцей, у прыватнасці, Алеся Баршчэўскага і Ніла Гілевіча. Апошні звярнуўся да прысутных з такімі словамі: «Сёння той-сёй яшчэ сумняваецца, што на нашай любай роднай зямлі ідзе адраджэнне беларускай культуры, мовы, гісторыі, памяці народнай, мастацтва. Дарэмна сумняваецеся. Такіх скептыкаў трэба было б запрасіць хаця б на адзін такі вечар, і ўвесь іх скептыцызм, усе сумненні развеяліся б. Я, як бачыце, даўно не малады чалавек. І я ведаю, у якім стане наша народнае мастацтва было дваццаць, трыццаць, сорак гадоў назад. Сёння непараўнальна змянілася агульная сітуацыя — столькі цудоўных калектываў, не падобных адзін да аднаго. Не падобных у сваёй таленавітасці, якасці, сіле, прыгажосці, ажно душа радуецца... Хачу Вам сказаць: калі хочаце доўга заставацца маладымі, доўга радавацца жыццю — дружыце з народнай песняй, народным танцам і народнай музыкай».



Спеўна-інструментальны гурт «Дзіва».

Было б добра, каб «Вялікдзень-94» прадоўжыўся «Вялікаднем-95», «Вялікаднем-96» і г. д., стаўшы такім чынам добрай традыцыяй.

**Ірына КРЭНЬ.**






Здаецца сімвалічным, што ўслед за светлым святам Перамогі, калі мы аддалі даніну глыбокай удзячнасці жывым і загінуўшым вызваліцелям чалавецтва ад фашысцкай чумы, прыходзіць Радаўніца, адзін з самых даўніх і вядомых у народзе памінальных дзён памерлых продкаў. Людзі прыходзяць да прыбраных напярэдадні магіл сваіх блізкіх, памінаюць іх добрым словам.

У гэты дзень многія мінчане паспяшаліся ва ўрочышча «Курапаты», дзе ляжаць тысячы і тысячы бязвінных ахвяр сталінскіх рэпрэсій. На працягу 1937—1941 гадоў тут штодня ішлі масавыя расстрэлы лепшых сыноў і дачок Беларусі. Тут падалі пад кулямі бязлітасных катаў знакамітыя паэты і аратыя. Тут крывавыя нелюдзі вялі скрупулёзны бухгалтарскі ўлік сваіх жудасных спраў, уласнай галавой адказваючы перад «вярхамі» за выкананне штодзённых планаў па вынішчэнні суайчыннікаў. Пройдзе час, і на месцы пакут і смерці паўстане мемарыял, які будзе нагадваць пра адну з самых трагічных старонак нашай гісторыі. Пакуль жа, некалькі год запар, людзі прыходзяць сюды да крыжкоў памяці, да каменя на пагорку, да раскіданых па лесе шматлікіх ямін-магіл, каб пакланіцца праху пакутнікаў Беларусі.

Асабліва людна тут бывае на Радаўніцу. І на гэты раз, дзесятага траўня, жывой квеценню ўкрылася набрынялая крывёй зямля. Ля Вялікага крыжа і Каменя памяці прайшлі набажэнствы, якія правялі святары праваслаўнай, каталіцкай і уніяцкай канфесій. Са шчырым пачуццём вернікі і ўсе, хто прыйшоў у гэты дзень да святых мясцін, ушаноўвалі памяць закатаваных. Словы малітвы адгукаліся ў сэрцах поклічам жыць па сумленні і праўдзе, быць міласэрнымі і спагадлівымі да ўсяго жывога.

Але, на жаль, і аб гэтым нельга не сказаць — у Курапаты наведваюцца не толькі сумленныя і добрыя людзі. Тэрыторыя ж святыні, якая была доўгі час радавым, звычайным участкам Ждановіцкага лясніцтва і толькі напрыканцы мінулага года набыла, нарэшце, статус гісторыка-археалагічнага помніка, як не ахоўвалася, так і не ахоўваецца дагэтуль. Ні Менскі гарвыканкам, ні аблвыканкам ніяк не вызначаць яе канкрэтнага гаспадара. Дагэтуль добраўпарадкаванне гэтага кутка — галгофы XX стагоддзя, арганізацыя акцый памяці ляжыць у асноўным на плячах грамадскасці, перш за ўсё сяброў хрысціянскай злучнасці «Курапаты». Гэта, зразумела, не можа аберагчы Курапаты ад вандалізму: беспакаранага раскопвання магіл, раскідвання па лесе прастрэленых чарапоў і касцей загінуўшых. І зараз побач з кветкамі, ускладзенымі чуйнымі рукамі, чарнеюць кастрышчы «аматараў прыроды», валяюцца смецце, бітыя бутэлькі, бляшанкі.

...А на Радаўніцу ў Курапатах была прыгожая, узнёслая ўрачыстасць. І хацелася верыць, і верылася: будзем помніць Вас, дзяды і прадзеды, Вас, знаёмыя і незнаёмыя, але бясконца дарагія людзі, што леглі ў зямлю за жыццё Бацькаўшчыны.

Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.

НА ЗДЫМКУ: на Радаўніцу ў Курапатах.

*Пародыі* *Г. ЮРЧАНКА*

## Праз ачнутасць фейнасці

*Я ніколі не думаў,*
*што прыйдзе такая пара —*
*Заструменяць радкі,*
*быццам лівень, што лье як з вядра.*
............
*Вось і канец нашай гамане.*
*Муха павольна пайзе па сцяне.*

Кастусь ЖУК.

Помна-задумны палоннік наіву,
Кінуўся ў лёс я, бы ў нейкае дзіва.
Вейна ачнуты, смяюся суздром,
Чучкі арэхаў выношу вядром.

Поўняй грудзей тваіх палкіх сагрэты,
Я мімаволі падаўся ў паэты,
Бо трапяткія налівы грудзей
Паляць душу ад спякоты люцей.

Сцішнай аравай зляцеліся птушкі —
Жыва струменяцца песні пястушкі,
Льюцца, як промні тугога дажджу,
Хай з паўгадзіны з пяром пасяджу.

Шмат летаў-зімаў я не вецяркую,—
Баржу пачуццяў вяду трапяткую
Ўперад і ўперад, ніколі назад,
Хай гэта чэрвень, няхай лістапад.

Зранку уднела, пазней уначэ.
Зумкая песня няўзнакам плытчэ.
Муха ва ўсім вінавата адна:
Блытае ўсюды, дзе столь, дзе сцяна.



## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**8 ЧЭРВЕНЯ, СЕРАДА**

14.40. «Батальёны просяць агню». Мастацкі фільм.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Трыбуна кандыдатаў у прэзідэнты.
21.00. Панарама.
23.55. НІКа.

**9 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР**

8.55. Тэлебачанне — школе. Выпускны экзамен па алгебры.
13.40. «Батальёны просяць агню». Мастацкі фільм.
17.00. «Максім Гарэцкі. Прысады жыцця». Тэлевізійны дакументальны фільм.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Трыбуна кандыдатаў у прэзідэнты.
21.00. Панарама.
23.45. НІКа.

**10 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА**

8.55. Тэлебачанне — школе. Выпускны экзамен па алгебры.
10.00. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Трыбуна кандыдатаў у прэзідэнты.
21.00. Панарама.
21.40. Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-94». Гала-канцэрт.

**11 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА**

11.15. Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-94». III тур конкурсу маладых выканаўцаў.
14.05. «Усе мы родам з дзяцінства». Фінал І Рэспубліканскага тэлефестывалю юных талентаў. Перадача першая.
19.00. Трыбуна кандыдатаў у прэзідэнты.
21.00. Панарама.
21.35. Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-94». Канцэрт «У слове родным — родная мелодыя». Сучасная беларуская паэзія ў эстраднай песні.

**12 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

13.00. Трыбуна кандыдатаў у прэзідэнты.
15.00. «Усе мы родам з дзяцінства». Фінал І Рэспубліканскага тэлефестывалю юных талентаў. Перадача другая.
18.40. Гінес-шоу.
20.00. Панарама.
21.10. Урачыстае закрыццё Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-94».

**Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны, рэдакцыя газеты «Наша слова» выказваюць глыбокае спачуванне супрацоўніцы Таварыства Цыркуновай Таццяне Васільеўне з выпадку напаткаўшага яе вялікага гора — смерці бацькі.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Заказ 76.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.

Наклад 7742 паасобнікі
Падпісана ў друк 6.06.1994 г. у 15 гадзін.